Пра пенсіянераў-пакутнікаў і пенсіянераў-паноў чытайце на 3-й стар.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 7 (4362)**

25 студзеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

## Сто грамаў за БССР

Дзіўна назіраць, як у краіне з амаль савецкім сцягам і амаль савецкім гімнам вельмі сціпла адзначаюцца 100-я ўгодкі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Вунь 100-годдзе камсамола будзе святкавацца з дзяржаўным размахам – урад і пастанову адпаведную прыняў, і юбілейны аргкамітэт на чале з міністрам – верным ленінцам створаны.

Помніцца і нядаўняя чарада ведамасных юбілеяў – Міністэрства абароны ўрачыста адзначыла 100-годдзе ўзброеных сіл, МУС – 100-годдзе міліцыі, МЗС – 100-годдзе дыпламатычнай службы. Лагічным апафеозам сярод гэтых святаў мусіў бы стаць гэткі ж юбілей БССР. З фанфарамі, з выхадам на сцэну міністра Шуневіча ў форме НКВД, міністра Карпенкі – з чырвоным (малаткаста-сярпастым) сцягам у руках, з узнагароджваннем пазасталых у жывых кіраўнікоў савецкай Беларусі памятнымі медалямі.

Але – ні фанфараў, ні медалёў. Нейкія блытаныя спецрэпартажы па БТ, у якіх Сталін спачатку фінансуе, а потым разганяе Усебеларускі з’езд, а ўстаўная грамата БНР дэманструецца на экране разам з маніфестам аб абвяшчэнні БССР. Не маючы дакладна вызначаных арыенціраў, аўтары тых спецрэпартажаў звыкла акцэнтуюць увагу на «рэспубліцы-партызанцы», прадстаўленай у ААН, на эканамічным рыўку «ад сахі да БелАЗа», на энтузіязме моладзі і дабрабыце калгаснікаў. Што ж, каб не ежка ды адзежка, то была б і грошай поўная дзежка.

Цікава, на які ўзроставы кантынгент разлічаны падобныя перадачы? На сучасную моладзь? Дык хатні тэлевізар даўно стаў для яе анахранізмам.

Пражыўшы ў савецкай Беларусі 25 гадоў, я добра памятаю, якімі бязрадаснымі выглядалі тыя «ежкі», «адзежкі» ды «дзежкі» (найчасцей пустыя). Нездарма ў народзе абрэвіятура БССР расшыфроўвалася проста і ясна: *Будуем Самі Сваё Рабства.*

На школьным уроку мы спачувалі рабам старажытнага Егіпта, якія пад спякотным сонцам будавалі для фараонаў піраміды, ці амерыканскім рабам на плантацыях феадалаў. Але прыходзілі летнія канікулы, і мы, вясковыя людзі, самі ператвараліся ў рабоў. Нашай плантацыяй было неабсяжнае буракове поле, дзе мы праводзілі ўсё лета і восень – да першых маразоў. За пяць месяцаў пякельнай працы наша сям’я з чатырох чалавек (маці і трое сыноў; восенню сямейнай брыга-дзе стараўся дапамагчы і бацька) атрымлівала 500–600 рублёў. Падзяліце на ўсіх – колькі атрымаецца? У месяц па рублёў 25 – мізэр. Працавалі фактычна бясплатна, як негры на бавоўняных плантацыях дзе-небудзь у Алабаме.

Ці – другі прыклад. Падлеткамі мы, пераважна ноччу, працавалі на элеватары – сушылі зерне. Помніцца, за чатырнаццаць начных змен я зарабіў ажно 15 рублёў – хапіла на прасценькі фотаапарат «Змена». Шufляваць сырое зерне па рублі за ноч – хіба гэта не рабская праца? Прычым, як бачым, калгас-«феадал» не грэбаваў дзіцячай рабсілай.

І яшчэ адзін яскравы ўспамін пра шчаслівае дзяцінства. Школьнікам я не вылазіў з вясковай бібліятэкі. Перачытаў усю класіку, далёка апярэдзіўшы навучальную праграму. Але ніколі не забудуся, як да захапляльных аповесцяў Янкі Маўра і Васіля Быкава, Фенімора Купера і Жуля Верна бібліятэкарка абавязкова ўпіхвала мне штосьці з нудотнай «лeнініяны», якой хапала на ўсе ўзросты. А потым прымала іспыт, правяраючы, ці прачытаў. Дадам, што тую «лeнініяну» я мусіў вывучаць і на філфаку БДУ – цэлы семестр.

Кажуць, савецкая школа была гуманнай, давала добрую адукацыю, таму не варта кідаць у яе камяні. Лічыце мяне няўдзячным вучнем, але за што дзякаваць – за скрадзены залаты час, за сфальшаваную гісторыю, за піянерска-камсамольскую паказуху, за якой зеўрала пустэча?

Удалося мне зблізку прыгледзецца і да савецкага войска, дзе, як у вялізным катле, адмыслова змешваліся розныя нацыянальнасці з мэтай згатаваць варыва пад назвай «савецкі народ». Дровы падкідваліся, палітначальнікі памешвалі змесціва катлоў, але на выхадзе ўсё роўна атрымлівалася, як у класічнай паэме, «паскудства, брат, і не пытайся».

А хіба забудзецца, як з нашай дэсантнай вучэбкі цэлую роту адправілі ў Афганістан, адкуль многія неабстрэленыя ўчарашнія студэнты вярталіся на радзіму ў запаяных трунах?..

Усё пералічанае мела месца ў БССР, і гэта мусяць памятаць усе – і крытыкі, і адэпты, якім савецкае жыццё здаецца зямным раем. З адным з такіх адэптаў мы днямі паспрачаліся, ён даводзіў, што ў савецкай Беларусі як ніколі раней квітнела айчынная літаратура – кнігі выходзілі вялікімі накладамі, Машэраў на верталёце катаў пісьменнікаў і г.д.

Мой апанент ніяк не хацеў зразумець, што літаратура ў БССР была проста ўбудавана ў ідэалагічную машыну кампартыі. Іржавая машына зламалася і пацягнула за сабой у нevarаць і літаратуру. У апошні момант тая ледзь вырвалася і, звыклая да аранжарэйных умоў, доўга не магла прыстасавацца да натуральнага жыцця. І сёння яшчэ прыстасоўваецца-выжывае. Але ўжо без спадзеўкі на кіслародную падушку ад дзяржавы.

Увогуле, з усіх вялікіх і малых літаратурных твораў савецкага перыяду мне найчасцей прыгадваецца адзін украінскі паліндром (вершаваны радок, які чытаецца аднолькава з абодвух бакоў): «*Серп и молот – то лом и прес*». Па-мойму, сказана вычарпальна.

Таму, шчыра кажучы, я цешуся, што 100-годдзе БССР праходзіць у нас без фанфараў. Няма чаго святкаваць. А сто грамаў за Беларусь савецкую я ўсё ж вып’ю. Памінальных. Няхай незваротна спакоіцца на тым свеце.

ЗАПРАШЭННЕ



## Дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія прынялі ў 1994 годзе Канстытуцыю незалежнай Беларусі, прапануецца сустрэцца

*У рэдакцыю газеты «Народная Воля» і на яе сайт паступіў ліст ад старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання* ***Мечыслава Грыба*** *(падпісанта першай Канстытуцыі незалежнай Беларусі). Па даручэнні арганізацыйнага камітэта ён звяртаецца да былых калег па парламенце. Вось тэкст:*

«**Шаноўныя калегі!**

Набліжаецца гістарычная дата – чвэрць стагоддзя з таго дня, калі Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання пасля вялікіх і надзвычай напружаных дэбатаў прыняў першую Канстытуцыю незалежнай Беларусі. З кожным годам мы ўсё больш выразна ўсведамляем, наколькі важна, каб краіна і ўсе яе грамадзяне шанавалі сваю Канстытуцыю, жылі паводле Асноўнага закона дзяржавы. Толькі ў такім выпадку мы дасягнём росквіту Айчыны, будзем шчасліва сябе пачуваць у роднай Беларусі.

Каб убачыцца, падзяліцца ўспамінамі і ўражаннямі аб тых знамянальных днях, разам паразважаць наконт сённяшняга нашага жыцця-быцця, мы прапануем дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання сустрэцца 9 лютага ў 12 гадзін у Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры (праспект газеты «Праўда», 11; станцыя метро «Пятроўшчына»).

Мы былі б вельмі ўдзячныя, калі б Вы загадзя паведамілі пра магчымасць узяць удзел у нашай сустрэчы па тэлефонах: 8-029-641-83-73; (8-017) 242-50-09 або праз электронную пошту volbiel@gmail.com».

СУД ДЫ СПРАВА




Ігар КОМЛІК:

## «Няхай пакажуць мне кватэру, якую я быццам бы купіў»

*Сёння ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска пачнецца разгляд іску лідараў прафсаюза РЭП да сайта belnovosti.by.*

Яшчэ ў маі мінулага года, калі прысуд фігурантам «справы прафсаюза» Генадзю Фядынічу і Ігару Комліку не быў вынесены, на вышэйзгаданым сайце з’явілася публікацыя пад назвай «Фіктыўны РЭП Фядыніча».

У артыкуле, у прыватнасці, сцвярджалася: *«У 2015 годзе Комлік набыў двухпакаёвую кватэру коштам не менш за 42 тысячы еўра і дом за горадам – каля 42 тысяч еўра. Фядыніч, як сапраўдны лідар і абаронца працоўных, у тым жа 2015 годзе зарэгістраваў дом коштам каля 100 тысяч еўра, які пабудаваў на адным з зямельных участкаў пад Мінскам».*

Яшчэ летам мінулага года Фядыніч і Комлік падавалі іск аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі, але тады суд не прыняў яго да разгляду.

*«Зараз мы не выстаўлялі нейкіх матэрыяльных прэтэнзій, просім, каб суд прызнаў пэўныя моманты з публікацыі паклёпам, і гэта было афіцыйна абвергнута,* – кажа **Ігар Комлік**. – *Мне, напрыклад, цікава будзе даведацца на судзе, дзе знаходзіцца мая маёмасць. Няхай пакажуць кватэру і дом, якія я быццам бы набыў не так даўно».*

Прадстаўнікі сайта сцвярджаюць, што «інфармацыя пра супрацьпраўную дзейнасць Фядыніча і Комліка ўтрымліваецца ў матэрыялах справы».

*«У справе ні слова няма пра нейкія нашы міфічныя кватэры і катэджы*, – адзначае Ігар Комлік. – *Мяркую, падчас суда стане вядома, хто «зліваў» на гэты сайт хлуслівую інфармацыю і адкуль у гэтай публікацыі «растуць вушы». Хаця я і так здагадваюся...»*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЦЕРКОВЬ И ВЛАСТЬ

## Католики Солигорска надеются, что их услышали...

*Польскому священнику-францисканцу, настоятелю костела в Солигорске Собеславу Томале разрешили продолжить служить в Беларуси. Пока только на полгода.*

Сообщение о запрете отцу Собеславу осуществлять религиозную деятельность в нашей стране расстроило и повергло в недоумение прихожан римско-католического прихода Святого Франциска в Солигорске. Причина такого решения Уполномоченного по делам религий и национальностей Леонида Гуляко оставалась для них тайной. Отец Собеслав за 20 лет службы в приходе проявил себя, по мнению прихожан, как самоотверженный, добрый, искренний и заботливый пастырь, и они решили обратиться в высокие инстанции с просьбой позволить ему быть настоятелем Солигорского католического храма, продолжать пастырское служение в нем и дальше.

– *Под обращением в Администрацию президента подписалось 449 человек, под обращением к Уполномоченному по делам религий и национальностей Леониду Гуляко – 380 подписей. Знаю, что примерно 20 прихожан отослали письма и лично от себя – в Ватикан, к архиепископу Митрополиту Минско-Могилевскому Тадеушу Кондрусевичу,* – рассказала «Народной Воле» председатель Совета прихода Валентина Димчогло. – *Отец Собеслав – настоящий пастырь, истинно от Бога. И это в нем чувствуют не только католики. Приходили нас поддержать, поставить подпись православные, а также верующие из Церкви христиан Веры Евангельской. Отец Собеслав – незаурядный, талантливый человек. Он ведь и художник еще, иконописец. Его большая заслуга, что в городе такой красивый католический храм построен. И бескорыстен он, стольким людям помог. Мы благодарны Богу, что отцу Собеславу продлили служение. Мы рады, что белорусские власти не остались безучастными к обращениям прихожан нашего храма, пусть пока на шесть месяцев отменили запрет на его религиозную деятельность, но мы, прихожане, уповаем на то, что ему продлят служение в Беларуси и после истечения этого срока.*

Отца Собеслава (Томала Войтеха Юзефа) действительно знают в столице шахтеров не только прихожане костела. Он, кстати, сам начинал свою трудовую биографию с шахтерского труда. Закончил шахтерский техникум в польском городе Катовице и два года проработал в шахте. Костел и его прихожане неоднократно были инициаторами и организаторами различных благотворительных ярмарок, концертов в Солигорске. В концертах участвует и созданный при католическом храме детский хор «Зярняткі». Собранные на этих мероприятиях деньги идут на лечение и реабилитацию больных детей, сиротам, инвалидам. Также при костеле создан театр «TRANSITUS», имеется воскресная школа для детей и молодежи.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Госслужащих – на паек всего народа

Зарплата госслужащих должна зависеть от роста или падения жизненного уровня населения. «Это ключевое», – заявил позавчера А.Лукашенко на совещании по проекту закона «О государственной службе».

Действительно, в жизни было всякое – благополучие народа то улучшалось, то случалось обвальное падение. Но я не помню, чтобы когда-либо зарплаты госслужащих падали. Основу заработков бюджетников составляют фиксированные оклады, и если реальные доходы падают, то их, понятно, съедают те же инфляция и девальвация. А вот зарплаты коммерческих предприятий колеблются вместе с динамикой в экономике, которая во многом определяется результатами работы высших чиновников.

Белорусская экономика работает с большими пробуксовками. После провалов в 2015–2016 годах ВВП за 2018 год достиг 59,7 миллиарда в долларовом выражении, или вырос на 3,0 процента, что меньше запланированного. При росте производительности труда на 3,6 процента реальная зарплата увеличилась на 12,4 процента, то есть вновь превышение в разы. Значит, вновь живем не по средствам. Не по средствам, вероятно, живут не все. Уже шесть лет подряд в Беларуси увеличивается разрыв между низкооплачиваемыми категориями населения и зажиточной по белорусским меркам ее частью.

Каждый год зарплата наших тружеников в декабре выходит на годовой максимум за счет новогодних бонусов, а в январе следующего года отскакивает на позиции минувшего ноября. Так вот в ноябре 70,5 процента работников была начислена зарплата «грязными» менее заветной 1000 рублей. Точнее, средняя зарплата составила 994 рубля, медианная, выше и ниже которой по 50 процентов работников, – 751,1 рубля, и модальная, как наиболее часто встречающаяся, – всего 395,8 рубля. Белстат в ноябре обследовал предприятия с численностью занятых 2,6 миллиона человек, и оказалось, что у 77,3 тысячи работающих зарплата ниже 300 рублей, то есть ниже установленной законодательством минимальной шкалы. Скорее всего, этим людям не предоставлялась работа на полный рабочий день. Как заведено, к самым бедным слоям населения относятся аграрии, большое число низкооплачиваемых трудится в образовании и здравоохранении.

Но не везде так грустно. Средняя зарплата у айтишников в ноябре была 3914 рублей (кто на кого учился), добытчики нефти и газа получили в среднем 2157 рублей. Как всегда, можно выделить воздушный транспорт. 19,2 процента персонала имели зарплаты от 2000 до 5000 рублей, 11,3 процента – более 5000 рублей. Девушки (и парни), идите учиться на стюардесс, будете получать свыше 1500 долларов в эквиваленте.

В Беларуси на крупных и средних предприятиях работают примерно 2/3 всех занятых в экономике. Из них 4,4 процента имеют зарплату свыше 2000 рублей. А это порядка 114 тысяч человек.

На вышеупомянутом совещании глава государства добавил, что чиновник должен быть скромным и не гнаться за материальными благами: *«Я предупреждал всех вас, что эти «коврижки», что у нас принято раздавать в любом законе в виде каких-то социальных гарантий, не должны быть выше того, что они есть»*. Средняя зарплата в сфере госуправления в ноябре составила 1212 рублей. В январе–ноябре реальные зарплаты госуправленцев выросли к аналогичному периоду 2017 года на 25,9 процента. Больше, чем у любых других категорий. К примеру, у врачей они увеличились на 11,3 процента, у учителей – на 12,2 процента, у работников культуры – на 12,3 процента. В госуправлении трудится 66,3 тысячи человек. Их фонд начисленной зарплаты – около 1 миллиарда рублей. У врачей он 514,5 миллиона рублей, у учителей – 812,8 миллиона, у профессорско-преподавательского состава – 224,3 миллиона рублей.

Конкретные зарплаты госуправленцев – тайна за семью печатями. Точнее, под грифом «Для служебного пользования». Статистика дает информацию, что зарплата 4,4 тысячи госчиновников находится в диапазоне 2000–5000 рублей, у 4,9 тысячи – 1500–2000 рублей, у 20 тысяч – 1000–1500 рублей. Более 5000 рублей получает высшее руководство страны. А «коврижки» чиновников можно легко лицезреть в виде того, как они живут.

Однако отбросим черную зависть. Как говорится, все в твоих руках. Что касается эффективности работы нашего топ-руководства, то все познается в сравнении. Сколько лет наша экономика не в состоянии сгенерировать 500-долларовую зарплату в эквиваленте в целом по стране? Вот это и есть оценка работы власть имущих.

Народная Воля http://www.nv-online.info
25 СТУДЗЕНЯ 2019 г.

ПАЛІТКУХНЯ

# Ніхто не спадзяецца на перамогу?

*Днямі палітык **Анатоль Лябедзька**, які цяпер кіруе арганізацыяй «Еўрапейскі дыялог», запрасіў прадстаўнікоў беларускай апазіцыі паразважаць на тэму «Прэзідэнцкая кампанія: чаканні, выклікі, інтрыгі». На запрашэнне адгукнуліся старшыня партыі «Справядлівы свет» **Сяргей Калякін**, кіраўнік АГП **Мікалай Казлоў**, лідар БСДП (Грамада) **Ігар Барысаў**, намеснік старшыні партыі «Зялёныя» **Зміцер Кучук**, кіраўнік руху «За Свабоду» **Юрась Губарэвіч**, кіраўнік Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандр Ярашук** і сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «БХД» **Вольга Каванькова**.*

*Амаль за чатыры гадзіны было выказана шмат цікавых думак наконт прэзідэнцкай і парламенцкай кампаній, выбараў адзінага кандыдата, Плошчы і іншага. Але пачалося ўсё з абмеркавання дзевяці тэзісаў наконт будучых прэзідэнцкіх выбараў, якія агучыў вядомы палітолаг **Валерый Карбалевіч**.*

*«Народная Воля» занатавала словы некаторых палітыкаў.*

### Валерый КАРБАЛЕВІЧ: «Грамадства больш саспела да перамен, чым улада»



– На першы погляд усе беларускія выбары падобныя адны на другія, і здаецца, што за 20 з нечым гадоў нічога не мяняецца, – *гаворыць Карбалевіч*. – Але гэтыя прэзідэнцкія выбары будуць мець свае асаблівасці.

**1.** Няпэўнасць з тэрмінамі. Пакуль ніхто не ведае, калі адбудуцца выбары. Улада пачала муціць ваду, казаць, што прэзідэнцкая кампанія можа адбыцца разам з парламенцкай, у 2019 годзе. Нагадаю, што ў Канстытуцыі напісана: прэзідэнт абіраецца на пяць гадоў. І ніякіх іншых варыянтаў больш не прадугледжана. Іншыя варыянты могуць быць толькі тады, калі прэзідэнт не можа па нейкіх прычынах выконваць свае абавязкі. Тое самае і з выбарамі ў Палату прадстаўнікоў. Паводле Канстытуцыі, дэпутаты абіраюцца на пяць гадоў. Ніякіх іншых варыянтаў быць не можа.

**2.** У адрозненне ад папярэдніх выбараў, Захад будзе рабіць стаўку не на падтрымку апазіцыі, а на беларускую стабільнасць.

**3.** Востры крызіс у адносінах з Расіяй. Можна сказаць, што і ў 2010 годзе выбары праходзілі на фоне такога ж крызісу, але тады Расія не ставіла пытанне пра больш цесную інтэграцыю, не замахвалася на беларускі суверэнітэт. Не выключаю, што гэтым разам Расія паспрабуе прасунуць на беларускія выбары свайго кандыдата. Не дзеля таго, каб звергнуць Лукашэнку, а каб зрабіць яго больш паслухмяным і мець магчымасць на яго ціснуць. Бо падчас выбарчай кампаніі Лукашэнка будзе больш уразлівым.

**4.** Знік украінскі сіндром, страх беларусаў перад вайной і перад крывавым Майданам. Раней Лукашэнка казаў: ну і што, што ў нас малыя заробкі і пенсіі, затое няма вайны. І гэта працавала. А зараз вайна ва Украіне фактычна спынілася…

**5.** Крызіс даверу да ўлады і персанальна да Лукашэнкі. Як мне падаецца, такога нізкага ўзроўню даверу яшчэ ніколі не было. Ужо мала хто верыць у здольнасць Лукашэнкі падвысіць узровень жыцця. Беларуская стабільнасць – гэта сінонім «безнадзеі».

На мой погляд, сёння грамадства перарасло ўладу і больш саспела да перамен. Людзі, якія праводзілі выбарчыя кампаніі падчас мясцовых выбараў, распавядалі, што ім было даволі цяжка знайсці прыхільнікаў Лукашэнкі…

**6.** Развіццё інтэрнэту. Сёння каля 70 працэнтаў беларусаў карыстаюцца інтэрнэтам. Улады страцілі манаполію на інфармацыю. Роля тэлевізара і дзяржаўных медыя моцна знізілася. З дзяржаўнымі тэлеканаламі моцна канкурыруюць незалежныя сродкі масавай інфармацыі, незалежныя інтэрнэт-рэсурсы. І гэта дае магчымасць апанентам выкарыстоўваць гэтую сітуацыю на сваю карысць.

**7.** Палітызацыя грамадства – яна ўжо пачалася ў звязку з беларуска-расійскім канфліктам. Цяпер велізарная колькасць наведвальнікаў на незалежных інтэрнэт-рэсурсах – раней такога не было. І чым бліжэй да прэзідэнцкіх выбараў, тым больш гэтая палітызацыя будзе ўзмацняцца. І нават калі ўлады развядуць парламенцкія і прэзідэнцкія выбары, гэта не саб'е палітызацыю. Палітызацыя працуе не на ўладу, не на рэжым.

**8.** Дэвальвацыя інстытута выбараў як механізму ўплыву на ўладу. Грамадства не верыць у выбары.

**9.** Падчас самага вострага за ўсю гісторыю кіравання Лукашэнкі крызісу даверу да ўлады апазіцыя апынулася найменш гатовая ўзначаліць працэс перамен. Складваецца ўражанне, што ніхто не спадзяецца на перамогу.

Паводле самых прыблізных падлікаў, на прэзідэнцкія выбары пойдуць як мінімум пяць незалежных кандыдатаў. І апазіцыя падчас выбараў будзе вырашаць свае ўласныя, партыйныя, карпаратыўныя, індывідуальныя праблемы. Як мне падаецца, гэта самы драматычны, нават трагічны момант…

### Ігар БАРЫСАЎ: «Голыя, але ганарлівыя»



*Аляксандр Лукашэнка рыхтуе на выбары сваю апазіцыю. Так лічыць старшыня БСДП (Грамада).*

– Першыя сімптомы гэтага былі заўважаны падчас мінулай выбарчай кампаніі, – *гаворыць Барысаў*. – Я тады быў прэс-сакратарам кампаніі «Права выбару», і мы сачылі за статыстыкай. Былі тры палітычныя партыі, якія моцна стартанулі па ўсіх паказчыках – ад колькасці вылучаных кандыдатаў да колькасці сябраў у камісіях. Гэта былі ЛДПБ, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці і Камуністычная партыя Беларусі. Усе астатнія партыі былі прадстаўлены на мяжы статыстычнай пагрэшнасці. Калі ў гэтую сістэму інтэграваць яшчэ «Белую Русь», то, мяркую, рыхтуецца мадэль на ўзор расійскага парламента, дзе ёсць лаяльныя да ўлады камуністы, сацыял-дэмакраты, лібералдэмакраты і партыя ўлады.

Не сакрэт, што ўдзел у выбарчых кампаніях – гэта не толькі медыйнасць, платформа, людзі, але яшчэ і сродкі. Мы ведаем, што ўсяго некалькі разоў у прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацый былі дастатковыя сродкі, для таго каб удзельнічаць у выбарах. Сярэдні «рынкавы кошт» аднаго выбаршчыка – адзін долар. У Беларусі прыкладна крыху больш за 7 мільёнаў выбаршчыкаў. Вось і лічыце, якія сродкі патрэбны, каб правесці больш-менш нармалёвую выбарчую кампанію. Мы ведаем, што ніводны з тых еўрапейскіх донараў, якія ёсць, нават у складчыну з некім, такія грошы не дасць. І ўвогуле Захад зараз не бачыць сэнсу падтрымліваць апазіцыю… Я таксама лічу, што Захад робіць стаўку на стабільнасць.

У грамадства ёсць запыт на тое, каб ад апазіцыі быў адзіны кандыдат. Але многія партыі пераследуюць унутрыпартыйныя мэты, бо выбараў няма, а ёсць выбарчая кампанія. Да таго ж няма пляцоўкі для камунікацый дэмакратычных арганізацый. Пакуль сітуацыя выглядае так: голыя, але ганарлівыя. Гэта пра беларускую апазіцыю.

БСДП (Грамада) рыхтуецца і да прэзідэнцкай, і да парламенцкай кампаній. Мы падрыхтавалі перадвыбарную платформу – надрукуем яе, як толькі будуць абвешчаны выбары. Але вялікіх змен і спадзяванняў на тое, што праз выбары можна змяніць уладу, у нас сапраўды няма…

### Сяргей КАЛЯКІН: «Беларусы сёння жывуць не горш, чым тры гады таму…»



*Старшыня партыі «Справядлівы свет» выступае супраць адзінага кандыдата ад апазіцыі і лічыць, што рэальны крамлёўскі кандыдат ускалыхнуў бы сітуацыю ў Беларусі.*

– Усё, што сказаў Карбалевіч, вельмі спрэчна, – *лічыць Калякін*. – Лукашэнка заўсёды прызначаў даты выбараў так, як яму гэта было патрэбна. Я тут наогул не бачу праблемы.

Што тычыцца канфлікту з Расіяй, то з выплат па знешняй запазычанасці, якія павінны быць у гэтым годзе, 70 працэнтаў трэба аддаць Расіі. Калі Расія рэструктурызуе гэтую запазычанасць у бліжэйшы час, усё стане ясна.

На жаль, для нас асноўным кандыдатам ад Расіі на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі будзе Аляксандр Лукашэнка. Пакуль ён ва ўсім задавальняе цяперашнюю расійскую ўладу. Можа быць, нам і хацелася б, каб з'явіўся нейкі рэальны кандыдат ад Расіі, і было б цікава, калі б Расія яго сапраўды падтрымала. Гэта ўскалыхнула б і грамадства, і вертыкаль. Але я не думаю, што гэта рэальны сцэнарый...

Што тычыцца крызісу даверу да сістэмы і фінансавых цяжкасцяў, то гэта, як мне здаецца, таксама за вушы прыцягнута. Так, астатнія краіны сталі жыць лепш, і далёка адышлі ад нас, але гэта іншая тэма. Беларусы сёння жывуць не горш, чым жылі год і нават тры гады таму. Таму я не бачу вялікай палітызацыі грамадства або сур'ёзных фактаў, якія адрознівалі б будучую прэзідэнцкую кампанію ад папярэдніх.

Тое, што людзі расчараваліся ў палітыцы ў цэлым, – гэта сапраўды так. У нас няма яркіх кандыдатаў, яркіх праграм...

Карбалевіч кажа пра інтэрнэт, але пытанне ў тым, што людзі там шукаюць. Палітычныя навіны ці парнаграфію? Многія атрымліваюць інфармацыю праз сацыяльныя сеткі, але пакуль гэта, на жаль, не капіталізавана палітыкамі. Хоць магчымасць хутка мабілізаваць прыхільнікаў праз сацсеткі сапраўды ёсць.

Сёння шмат хто кажа: трэба падтрымаць Лукашэнку ў барацьбе за незалежнасць. Але гэта лухта несусветная! Бо суверэнітэт турмы для тых, хто сядзіць у гэтай турме, ніякай каштоўнасці не мае! Без захавання асноўных правоў і свабод суверэнітэт не з'яўляецца той сакральнай мэтай, за якую людзі будуць галасаваць.

На мой погляд, адзінае, пра што можна сёння гаварыць з Лукашэнкам, – гэта сацыяльна-эканамічнае становішча грамадзян. Яно не вельмі дрэннае, але бесперспектыўнае...

### Мікалай КАЗЛОЎ: «Трэба рыхтавацца да перамогі»




*Цяперашні кіраўнік АГП удзельнічае ў праймерыз і не выключае, што пойдзе адстойваць сваю перамогу на плошчу – у тым выпадку, калі будзе перакананы, што вынікі выбараў сфальсіфікаваны.*

– Запыт на адзінага кандыдата ў грамадства ёсць, прычым ужо шмат гадоў, – *гаворыць Казлоў*. – Праймерыз – гэта дэкларацыя гатоўнасці апазіцыі да перамоў, спроба папрацаваць разам.

Сёння назіраецца стомленасць выбаршчыкаў, нават нейкая агрэсіўнасць да існага становішча ў краіне. Я за апошнія дні абышоў амаль 200 кватэр і не ўбачыў прыхільнікаў Лукашэнкі. І заўважыў, што пратэстныя настроі ў грамадстве даволі моцныя.

Што тычыцца суверэнітэту, то, можа, я песіміст, але мне здаецца, што заявы «Лукашэнка – гарант суверэнітэту» не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Давайце ўспомнім трубу «Белтрансгазу», якая гарантавала нам энергетычную незалежнасць. Як толькі Лукашэнку прыціснулі, гэтая труба раптам аказалася ржавай, і мы яе «вельмі выгадна» прадалі расійцам. І калі Украіна мае магчымасць рээкспарту газу з Еўропы, то Беларусь – не, таму што не валодаем гэтай трубой, якой бы ржавай яна ні была.

Калі Расія сур'ёзна вырашыць стварыць нам праблемы эканамічнага характару, то я не ўпэўнены, што Лукашэнка са сваімі сынамі пойдзе з аўтаматам у руках абараняць краіну.

Што тычыцца перамогі, то сапраўдных выбараў у Беларусі няма. І не будзе, пакуль Ярмошына кіруе выбарамі, пакуль Лукашэнка ва ўладзе.

Але я ўсё роўна лічу, што трэба рыхтавацца да перамогі. Жыццё – імклівае, і ўсё настолькі хутка мяняецца, што мы павінны быць гатовы да любога сцэнарыя.

***Як будзе дзейнічаць Казлоў, калі раптам стане адзіным кандыдатам ад правацэнтрыстаў і па выніках выбараў яму намалююць не рэальны працэнт галасоў, а толькі 3–5 працэнтаў? Ці павядзе ён людзей на плошчу адстойваць свой выбар?***

«Мне падабаецца сцэнарый Арменіі, – *адказаў падпалкоўнік у адстаўцы*. – Я асабіста гатовы пайсці на плошчу, калі паўстане пытанне аб тым, што гэта сапраўды перамога і яе трэба адстаяць. Але ўсё будзе вырашаць народ. Беларусь спакойная і цывілізаваная краіна, мяркую, да жудасных крывавых сцэнарыяў у нас справа не дойдзе».

### Юрась ГУБАРЭВІЧ: «Галоўнае – рэгістрацыя»



*Кіраўнік руху «За Свабоду» не выключае, што напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі будзе прэзентавана новае выбарчае заканадаўства.*

– Перамога павінна быць нашай галоўнай мэтай, але на першым этапе самае галоўнае – быць зарэгістраванымі кандыдатамі, якія атрымаюць магчымасць легальна выкарыстоўваць кампанію для сустрэч з людзьмі, пікетаў і гэтак далей. На маю думку, найлепшая пазіцыя будзе ў той групы апазіцыі, якая здолее паміж сабой дамовіцца і вылучыць супольнага кандыдата на прэзідэнцкія выбары.

Не выключана, што напярэдадні выбараў мы атрымаем нейкія зрухі ў выглядзе змен у Выбарчым кодэксе альбо закона аб дзейнасці палітычных партый.

### Аляксандр ЯРАШУК: «Расія можа не прызнаць беларускія выбары»



*Такі прагноз робіць кіраўнік Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў.*

– Мне падаецца, што гэта можа быць адна з самых цікавых прэзідэнцкіх кампаній, бо сітуацыя парадаксальная: ужо сёння бачна, што Захад блізкі да таго, каб прызнаць вынікі прэзідэнцкіх выбараў, а Расія якраз можа заявіць пра фальсіфікацыі і пра тое, што галасы лічыліся непразрыста.

На мой погляд, Крэмль не будзе рыхтаваць свайго кандыдата на выбары, але можа падтрымаць некага з беларускіх палітыкаў, якія будуць балатавацца.

**Марына КОКТЫШ.**

АЛЬТЕРНАТИВНЫЙ ВЗГЛЯД

Гарри ПОГОНЯЙЛО,
председатель юридической комиссии РПОО «Белорусский Хельсинкский Комитет»

# ЧТО ЗА ДЕКРЕТАМИ «О ТУНЁЯДЦАХ»?

(*Окончание. Начало в №6.*)

## 2.Дискриминация

В соответствии со ст.22 Конституции все равны перед законом и имеют право без всякой дискриминации на равную защиту прав и законных интересов. Принцип равенства и недискриминации признается в Международном пакте о гражданских и политических правах (ст.26) и Международном пакте об экономических, социальных и культурных правах (ст.2). Оба пакта ратифицированы Республикой Беларусь и, значит, являются частью национального законодательства страны.

**Под дискриминацией понимается любое различие, исключение, ограничение или предпочтение или иное дифференцированное обращение, которое прямо или косвенно осуществляется на запрещенных основаниях для дискриминации и целью или результатом которого является умаление или отрицание признания реализации или осуществления наравне с другими прав, закрепленных в пакте** (Замечание общего порядка №20 «Недискриминация экономических, социальных и культурных прав», E/C.12/GC/20, 2 июля 2009 г.).

Критикуемый декрет в той части, которая относится к разделению граждан на «участвующих в экономике» и «не участвующих в экономике» с возложением на последних повышенной оплаты услуг, по нашему мнению, является дискриминацией. Государство, по смыслу декрета, не одобряет социальное поведение «граждан, не участвующих в экономике». Но такое поведение не противоречит Конституции и принятым на ее основе законам. Будучи закрепленной в правовом акте, такая дискриминация носит системный характер в политике и практике государства. Придуманное и возведенное в ранг правовой нормы дифференцированное обращение в отношении отдельной группы граждан не является разумным и объективным. Такое обращение не основано на законе и не имеет каких-либо социальных объяснений и оправданий. Тем более что оно касается, как мы покажем ниже, наиболее уязвимых социальных групп населения. Причем чиновники даже не берутся доказать обратное.

Действительно, как можно доказать разумность и объективность таких подходов, поделив семьи: с одним-двумя детьми в возрасте старше 7 лет, с одной стороны, с тремя и более, с другой стороны, то есть по числу детей? В результате такого рода манипуляций неработающего родителя, занимающегося ведением домашнего хозяйства и воспитанием детей, из первой группы объявили «тунеядцем», отнесли к не участвующим в экономике и возложили на него оплату услуг по ценам (тарифам), *«обеспечивающим полное возмещение экономически обоснованных затрат»*.

То же самое сделали в отношении тех, кто ухаживает за престарелыми родителями: тот, кто занимается этим по договору со службой соцзащиты, – участвует в экономике и производит оплату за услуги по субсидируемым государством тарифам; а кто ту же работу выполняет как дочернюю (сыновью) обязанность, заботится, оказывает им помощь (обязанность предусмотрена ст.32 Конституции) – тунеядец и обязывается по декрету оплачивать услуги в полном объеме.

Таким образом, можно утверждать, что по Декрету №3 отдельные лица, группы людей подвергаются такому произвольному обращению со стороны государства, которое искусственно создало эти социальные группы, преследуя лозунг «Кто не работает – тот не ест». А наказанием им служит оплата услуг по полной их экономической стоимости. Такая практика разделения на своих и чужих, на врагов и друзей в отношении собственного народа, кроме того, порождает и поддерживает негативные стереотипы, социальную рознь и неприятие противоположного, стигматизацию тех, кто, по терминологии декрета, «ведет асоциальный образ жизни». Не только обыватели, но и государственные чиновники вплоть до президента характеризуют данные группы лиц (напомню, их около 500 тысяч) как «тунеядцев» и «дармоедов». Согласно толковому словарю русского языка С.И.Ожегова, слова «дармоед», «тунеядец» означают «человек, который живет за чужой счет, чужим трудом, бездельник», то есть имеют очевидную отрицательную, негативную каннотацию.

Следует согласиться и признать, что Декрет №3 (в новой редакции) не соответствует требованиям ст.22 Конституции и международным договорам Республики Беларусь, запрещающим неравенство и дискриминацию (более подробную информацию о предотвращении дискриминации можно найти на сайте БХК – http://rounasc.belhelcom.org/).

## 3.Нарушение тайны личной жизни

В данном контексте не могу не коснуться вопроса о созданной базе данных. Информационные технологии, цифровая экономика все больше проникают в жизнь Беларуси, ее граждан. Однако проблема сбора, хранения и использования персональных данных о гражданах органами государственной власти может напрямую касаться соблюдения основных прав и свобод человека и, в частности, права на частную жизнь. Это право закреплено в статье 28 Конституции, на которую я уже ссылался. Важно знать, при каких обстоятельствах это право может быть правомерно ограничено, для каких целей и по каким критериям, чтобы они были совместимыми и соразмерными с правами человека.

Согласно декрету, база данных создана без согласия граждан. В то же время национальное законодательство не предоставляет соответствующих гарантий эффективной защиты от неправомерного использования или злоупотребления. Гражданину не предоставляется право получить информацию, кто, когда и с какой целью обращался к его персональным данным, для чего они использовались. При отсутствии в законодательстве обязательной регистрации каждого факта обращения к персональным данным, доказать вину конкретного должностного лица на практике будет невозможно. Напомню, в 2013 году в так называемую базу «невыездных» по политически мотивированным причинам незаконно были включены 50 человек, в отношении которых компетентные органы не принимали никаких решений о запрете их выезда за границу. Вместе с тем по жалобам граждан организации-пользователи этой базы, а также суды так и не установили виновных лиц.

Кроме того, учитывая, что данные формировались без участия гражданина, достоверность собранного материала может быть сомнительной и привести к необоснованному решению, к примеру, о включении его в список «не участвующих в экономике» с последующим возложением на него оплаты услуг в полном размере. А потом иди и доказывай исполкомовской комиссии, что ты «не рыжий».

Отсюда следует еще один вывод: установленный порядок, допускающий ограничение права (в нашем случае – права на невмешательство и защиту частной и семейной жизни) привел к нарушению законодательства, в том числе конституционного принципа верховенства права (статья 7 Конституции).

Мы уже не раз обращали внимание на то, что вмешательство исполнительной власти в права личности должно подвергаться эффективному контролю, включая судебный. Но такие механизмы ни в Декрете №3, ни в постановлении Правительства не предусмотрены, гражданам об этом ничего не заявлено. Таким образом, риск произвола становится очевидным.

Между тем закон должен достаточно четко указать границы его исполнения и способ дозволения, а также чиновничьего усмотрения, чтобы дать лицу адекватную защиту от произвольного вмешательства. Оно может привести с неизбежной опасностью к злоупотреблениям не только со стороны должностных лиц, но и государства. Большой вопрос, будут ли власти использовать базу данных для целей политического, иных видов профилирования, далеких от задач, заявленных в декрете. Ограничений для подобных действий декретом не предусмотрено.

По нашему мнению, незаконное создание базы данных с объявленными целями, результатом чего является унижение достоинства, создание запугивающей, враждебной, унизительной, оскорбительной или обидной обстановки для группы лиц, включенных в нее с ярлыком «тунеядцы», противоречит правовым стандартам. Такая база данных, считаем мы, правозащитники, должна быть уничтожена. Тысячи граждан Беларуси весной 2017 года продемонстрировали свою решимость отстаивать свои права, в том числе массовым выходом на улицы городов с призывом об отмене позорного Декрета «о тунеядцах». Власти, если не предпримут никаких действий по исправлению ситуации, могут спровоцировать протестные акции и нынче.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

## Новы Запавет на заходнепалескай гаворцы



У сталічнай Галерэі TUT.BY. прайшла прэзентацыя Новага Запавету, перакладзенага на заходнепалескі дыялект вёскі Сіманавічы Драгічынскага раёна мовазнаўцам Фёдарам Клімчуком *(на фота)*. Збор грошай на выданне (праз пляцоўку ulej.by) арганізаваў у межах праекта «Традыцыя» Сяргей Доўгушаў. Сваю працу мовазнавец распачаў яшчэ ў сярэдзіне 1980-х гадоў пры атэістычнай савецкай уладзе, але грунтоўна заняўся перакладам з 1993 года, калі выйшаў на пенсію (Ф.Клімчук працаваў у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук). Закончыў працу ў 2000-м. На жаль, выдатны знаўца беларускага Палесся не патрымаў у руках плён сваёй працы – памёр у канцы мінулага года.

**Ася РОГАЧ.**

ЧУЛІ?

## «Баю-бай, баю- бай, вачаняты закрывай»



Сталічнае выдавецтва «Галіяфы» выпусціла ў свет зборнік беларускіх калыханак. Іх можна пачытаць і паслухаць – да зборніка дадаецца дыск з трыма дзясяткамі музычных кампазіцый, якія выконваюць Данчык, Таццяна Грыневіч-Матафонава, Лера Чубат і Андрэй Лугін. Сабрала калыханкі філолаг Святлана Тоўсцік, мастацкае аздабленне кнігі зрабіла Ганна Сілівончык. Задума гэтага ўнікальнага праекта, як прызналася ўкладальніца, узнікла ў дэкрэтным адпачынку, калі яна гадавала сына-першынца Альгерда: «Даводзілася гадзінамі спяваць калыханкі, і вельмі хацелася, каб тэксты заўсёды былі пад рукой». Пад адной вокладкай сабраны і аўтарскія калыханкі Генадзя Бураўкіна, Артура Вольскага, Эдуарда Акуліна, і народныя – «Люлі-люлі-люлі, прыляцелі куры». Зборнік ужо з'явіўся ў сталічных кнігарнях.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

АКЦЫЯ

## За месяц на святкаванне Дня Волі сабралі больш за 10 тысяч рублёў

Як паведамлялася, 16 студзеня ў Мінгарвыканкам была пададзена заяўка на святкаванне Дня Волі – 2019. Асноўныя мерапрыемствы прапануецца правесці 24 сакавіка на сталічным стадыёне «Дынама».

*«На гэты момант сабрана больш за 10 тысяч рублёў*, – паведаміў «Народнай Волі» адзін з арганізатараў мерапрыемства **Павел Белавус**. – *У мінулым годзе спатрэбілася 60 тысяч, але зараз тэмпы збору грошай значна лепшыя, таму перакананы, што з фінансамі праблем не будзе».*

Паводле слоў Белавуса, збор сродкаў пачаўся ў снежні мінулага года, на гэты момант праект ужо падтрымалі каля 300 чалавек. А найбольшую суму ахвяраваў Аляксей Прохараў з Віцебска – 500 рублёў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТВОРЧАЯ МАЙСТЭРНЯ

# «Тайная вячэра» ў Віскулях

*Мінскі мастак Аляксей Панцюк-Жукоўскі напісаў дыптых, прысвечаны пераломнаму моманту беларускай гісторыі – падпісанню Белавежскіх пагадненняў, якія прывялі да незалежнасці былых савецкіх рэспублік.*

Першая работа – *«Тайная вячэра»* – факталагічная: 8 снежня 1991 года ў рэзідэнцыі «Віскулі» першыя асобы і кіраўнікі ўрадаў Беларусі, Расіі і Украіны дамаўляюцца пра стварэнне Садружнасці незалежных дзяржаў, тым самым ставячы крыж на існаванні Савецкага Саюза.

Другая – *«Шлях да адраджэння»* – сімвалічная: **Станіслаў Шушкевіч, Барыс Ельцын** і **Леанід Краўчук** «рассоўваюць» жалезную заслону СССР і рушаць у вольную будучыню. На абедзвюх карцінах лідары з нацыянальнай сімволікай: бел-чырвона-белы сцяг беларусаў, жоўта-блакітны ўкраінцаў і расійскі трыкалор.



Аляксей Панцюк-Жукоўскі і яго «Тайная вячэра».

## «Калі б Гарбачоў быў смялейшы, з Віскулёў усе паехалі б на Калыму»

**Аляксей Панцюк-Жукоўскі** расказаў, што задума адлюстраваць падзею нарадзілася падчас 25-гадовага юбілею Белавежскіх пагадненняў. Але творчы працэс аказаўся больш працяглым, чым ён меркаваў.

*«Як адлюстраваць пераход ад савецкага ладу да незалежнасці рэспублік? Відавочна, праз тры гістарычныя постаці. Пачаў думаць над кампазіцыяй, падняў тагачасныя здымкі. За белым сталом – Ельцын, Шушкевіч, Краўчук з прэм'ерамі падпісваюць дакументы.*

*Ведаеце, я па-новаму ўразіўся! Калі ў 1991-м успрымалася збольшага як фармальная хроніка, з вышыні дня сённяшняга выглядае зусім інакш. Бо, калі б у Гарбачова было крыху больш сілы волі і смеласці, ён мог бы кінуць у Віскулі сваіх кадэбістаў, і падпісантаў адправілі б на Калыму».*

Суразмоўца паўжартам наракае, што ў Віскулі не запрасілі мастакоў, каб зафіксаваць важнасць моманту. А таму даводзіцца карыстацца фотафактамі з той падзеі. Ягоная карціна стала творчым пераасэнсаваннем дзясяткаў здымкаў. Апрача асноўных фігурантаў Белавежскіх пагадненняў на карціне можна пазнаць **Пятра Краўчанку, Міхаіла Мясніковіча, Ягора Гайдара.**

*«Пішацца не проста «здымак», трэба стварыць псіхалагічны вобраз галоўных асоб: як Ельцын вызначаецца ў свой момант ісціны; пра што думае Шушкевіч падчас падпісання; чым занята галава Краўчука.*

*Адказнасць жа велізарная! Пастаў подпіс – і ўсё памяняецца, дарогі назад няма. Як суіснаваць далей, калі пачнуць дзейнічаць свае законы, наноў наладжваць эканамічныя, палітычныя стасункі? Процьма пытанняў! Гэта як дзіця ўпершыню без бацькоў ступае за парог хаты. Поўная нявызначанасць!»* – кажа мастак.



«Шлях да адраджэння»: вырвацца з абдымкаў Савецкага Саюза.

Лідары, якія змянілі ход гісторыі, адышлі ад палітычных спраў, а Барыс Ельцын – і з жыцця, нагадвае Аляксей Панцюк-Жукоўскі. Расія паспела развязаць вайну ва Украіне, Беларусь балансуе паміж Усходам і Захадам. Хіба ў Кіеве не ставіцца пад сумнеў важнасць Белавежскіх пагадненняў: у Мінску настальгуюць «па часах савецкага парадку», у Маскве ўсё больш навязлівая ідэя вярнуць «спакон рускія землі».

*«Калі разглядаць з палітычнага гледзішча, развал СССР адбыўся не з нашага боку і не з украінскага,* – кажа мастак. – *Ініцыятыва зыходзіла ад Масквы. Але парадокс: хто сёння Ельцын для Расіі – герой або не? Па сутнасці, ён разбурыў тое, што збіралася да кучы царамі.*

*Тая ж Кацярына далучыла да імперыі землі Беларусі і Украіны, Крым. Немка стала «збіральніцай зямель рускіх». Ленін таксама па-свойму вырашыў нацыянальнае пытанне: утварыў рэспублікі, якія сталі асобнымі адзінкамі пад кантролем Расіі. А Ельцын? Зрабіў дэмакратычны ход – усё раздаў».*



Партрэты Максіма Багдановіча і Васіля Быкава. Аўтар Аляксей Панцюк-Жукоўскі.

## «Учарашнія камуністы паўсталі супраць партыйных устояў»

Чаму адну з карцін дыптыху пра Белавежскія пагадненні мастак назваў «Тайная вячэра»? І як з вядомым біблейскім сюжэтам стасуюцца камуністычныя лозунгі наверсе – «Слава КПСС!», «Слава працы!»?

*«Пагадненне падпісвалася таемна ад дзевяці астатніх рэспублік (Прыбалтыка вызвалілася раней),* – гаворыць аўтар палотнаў. – *Тры палітыкі, па сутнасці, уступілі ў змову. Але ціснула нават не гэта.*

*Усе яны – учарашнія камуністы. Выраслі ў той сістэме, сталі палітыкамі, узначалілі рэспублікі. І вось гэтыя людзі, узгадаваныя ў СССР, дзе чалавек чалавеку «друг, товарищ и брат», а лозунгі ўслаўлялі «мир, труд, май» і КПСС, паўсталі супраць асноў! Палічылі, што надышоў час будаваць незалежныя дзяржавы. Зрабілі прынцыпова новую гісторыю».*



Бакавыя часткі трыптыху «Беларуская калыханка».

Як будуць сумяшчацца дзве працы, розныя па жанры? Папраўдзе, паставіць іх побач у майстэрні так і не атрымалася – не дазваляюць памеры.

*«Добра будуць сумяшчацца,* – усміхаецца мастак. – *Не будуць адна адну ні шчаміць, ні засланяць. Спадзяюся, глядач таксама ўбачыць менавіта «Тайную вячэру», падчас якой падпісваюцца дакументы аб канцы дзяржавы СССР.*

*Ну а другая – ужо вынік дамовы: Ельцын, Шушкевіч і Краўчук выходзяць праз жалезныя дзверы СССР у новы свет. Безумоўна, у гэтым выпадку іншае вырашэнне, але сутнасна яны пра адно. Цяпер працую над «вячэрай», у другую час ад часу ўношу карэктывы. Ясна, зручней, гледзячы на адну, выхапіць хібы на іншай. Але як ёсць».*



Трыптых «Беларусь. На скрыжаванні стагоддзяў».

## «За 25 гадоў суверэнітэту ўсё змянілася ў лепшы бок»

Якім бачыць аўтар выставачнае жыццё свайго дыптыха? Як паказвае практыка, дзяржаўныя музейныя ўстановы і нават прыватныя галерэі досыць насцярожана ставяцца да спробы палітызацыі сюжэту – і калі ёсць нацыянальная сімволіка, і калі фігуруюць дзяржаўныя асобы.

*«Асцерагаюцца, бо кіраўнікі музеяў працуюць за грошы дзяржавы. Але як толькі ўлада дасць дабро, усё зробяць. Калі скончу да лета – плюс тры незавершаныя партрэты і некалькі пейзажаў – буду прасіць дырэкцыю Нацыянальнага мастацкага музея, каб далі дазвол паказаць мае творы.*

*Сёння народ бачыць толькі абстрактнае мастацтва, якое не нясе ні тэмы, ні вобразу – папросту адвыклі ад фігуратыўных кампазіцый. Таму глядач будзе. Спадзяюся, улады са мной пагодзяцца і дапамогуць. Трэба толькі зрабіць на ўзроўні, каб годна прэзентаваць. Над чым сёння і працую».*

*«Каталонцы, шатландцы, палесцінцы, курды – усе прагнуць свабоды,* – кажа аўтар. – *А што мы? Саюз даў нам рэспубліку, палічылі, што ўжо някепска. Можа, пакрыўджу, але па сутнасці мы не барацьбіты. За вякі каланіяльнага прыгнёту беларус зрабіўся памяркоўным рабом, забыў гісторыю, мову. Працаваць – і не болей.*

*Але насуперак усяму з развалам СССР у нас адбылася незалежная краіна. Добра гэта? Калі зірнуць навокал і параўнаць – мабыць, нядрэнна. За больш як 25 гадоў суверэнітэту ўсё змянілася ў лепшы бок! Крутыя машыны, поўныя крамы, адкрытыя межы – усё для людзей».*

## «Лукашэнкі» пакуль не прадаюцца, чакаю свайго мецэната»

Аляксей Панцюк-Жукоўскі – мастак разнапрофільны. У ягоным здабытку партрэты Максіма Багдановіча, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Мулявіна, іншых знаных дзеячаў. Летась з працай «Яны стварылі Беларусь» браў удзел у выставе да 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці БНР: пад бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняй» – усе айцы-заснавальнікі.

Году малой радзімы і землякам-палешукам прысвяціў трыптых «Беларуская калыханка», дзе сумясціў вобразы продкаў-ваяроў пад нацыянальнымі сімваламі і народнага павадыра – «Ноя»-гусляра. Простыя беларусы ў творчасці мастака займаюць асаблівае месца.

Крыху раней апынуўся ў прыцэле ўвагі з карцінай «Мая Беларусь. На скрыжаванні стагоддзяў». Шлях беларускай дзяржаўнасці ён паказаў праз асоб, якія, на яго погляд, зрабілі найбольшы ўнёсак на розных гістарычных этапах: першы кіраўнік ВКЛ Міндоўг, партыйны дзеяч Пётр Машэраў і цяперашні кіраўнік Аляксандр Лукашэнка з сынам Мікалаем.

Камісія ў складзе кіраўнікоў секцый Беларускага саюза мастакоў не дала дабро на публічны паказ твора, спаслаўшыся на адсутнасць афіцыйнага дазволу на адлюстраванне вобразу Лукашэнкі. Таксама былі прэтэнзіі на неадпаведнасць свайму часу латаў Міндоўга і сцяга ў партызанаў Машэрава. У канцы мінулага года ягоную майстэрню сябры камісіі наведалі самі – шукалі, што можна купіць. Цікаўлюся: на Лукашэнкаў не «замахваліся»?

*«Не, карціна ў мяне, удасканальваю: шкада казённых грошай, баюся, яшчэ збанкрутуе дзяржава ад маіх твораў,* – смяецца Панцюк-Жукоўскі. – *Чакаю мецэната, якому мае работы былі б цікавыя, каб ён захацеў іх купіць і распараджацца на ўласнае бачанне: ці падарыць музею, ці стварыць культурны цэнтр свайго імя.*

*Ёсць такія людзі і ў наш час, проста яшчэ не напалі на мой след. Я сам не багаты чалавек, каб зрабіць нешта падобнае: у мяне няма сродкаў арганізаваць культурна-мастацкі цэнтр. А ў кагосьці такіх рэсурсаў дастаткова».*

ДАСЬЕ

*Аляксей Панцюк-Жукоўскі нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Бабунічы Петрыкаўскага раёна Гомельшчыны. Скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, з 1988 года – сябра Саюза мастакоў Беларусі. Працуе ў розных жанрах станковага жывапісу: нацюрморт, пейзаж, партрэт, станковая фігуратыўная карціна. Больш за 30 гадоў выкладае малюнак, жывапіс і кампазіцыю ў гімназіі-каледжы імя Ахрэмчыка.*

**Ігар КАРНЕЙ.**

*(Радыё Свабода.)*

СЛЫШАЛИ?

## Изменить фамилию теперь можно будет быстрее

*О нововведениях, коснувшихся перемены гражданами фамилии, рассказали в отделе загс администрации Советского района.*

– *Процедура перемены фамилии многоступенчата: она включает разрешение органа внутренних дел, отдела загс, главного управления юстиции Мингорисполкома и происходит в двухмесячный срок,* – пояснила начальник отдела загс администрации Советского района **Ольга Кипер**. – *Чаще всего фамилия меняется в связи со вступлением в брак.*

С 1 февраля 2019 года вступает в силу постановление Совета Министров Республики Беларусь от 14.12.2018 №896, в соответствии с которым для граждан, не поменявших фамилию в день регистрации заключения брака на общую с супругом, это будет быстрее и проще, сообщает агентство «Минск-Новости».

Заявление о перемене фамилии примут в органе загс как по месту жительства, так и по месту регистрации заключения брака.

– *Новое свидетельство о заключении брака можно будет получить в течение 10 дней, заплатив при этом 1 базовую величину,* – отметила О.Кипер.

## В Вилейке 11-летняя девочка отравилась таблетками от алкогольной зависимости

*22 января в Вилейскую районную больницу поступила 11-летняя ученица одной из школ города, которая съела 9 или 10 таблеток от алкогольной зависимости, сообщает МЛЫН.BY.*

Врачи госпитализировали ребенка в реанимационное отделение и сообщили о происшествии в милицию.

– *Девочка растет в семье, которая находится в социально опасном положении. У нее есть мать, отец, которым по 36 лет, 16-летняя сестра и 18-летний брат. Школьница учится во вторую смену и 22 января около 12.00 была дома одна. Установлено, что девочка сознательно приняла 9 или 10 таблеток препарата, который по рецепту назначает доктор при лечении алкогольной зависимости,* – рассказала начальник инспекции по делам несовершеннолетних Вилейского РОВД **Анна Царик**.

По словам Анны Царик, когда девочке стало плохо после употребления таблеток, она позвонила матери, которая была на работе. Женщина связалась с мужем, он прибежал домой и вызвал «скорую помощь».

По словам отца пострадавшей, его дочь наелась таблеток, чтобы не идти в школу.

– *Но мы рассматриваем еще одну версию – любовь к мальчику. Возможно, девочка хотела обратить на себя его внимание или испугать его,* – сказала Анна Царик.

Проверку по факту инцидента проводит Вилейский районный отдел Следственного комитета.

РАКУРС

## Даля ГРИБАУСКАЙТЕ: «У нас в правительстве осталось одно свободное место…»

*Президент Литвы Даля Грибаускайте, которая на Всемирном экономическом форуме в Давосе принимает участие в дискуссиях о лидерстве женщин, говорит, что вопрос о литовском правительстве, оставшемся без женщин, не из приятных.*

Она напомнила, что ранее на высокие посты в государстве удавалось найти компетентных женщин, однако 2018 год, по ее словам, показал ослабление женского лидерства в мире.

«*Мы видим, что лидерство женщин в 2018 году несколько уменьшилось. Общая мировая тенденция, к сожалению, и у нас начинает проявляться так же явно, и мы видим, что у нас в правительстве осталось одно свободное место. Даже если его и займет женщина, абсолютно ясно, что Литва среди стран Евросоюза уже выглядит хуже всех, у нее практически нет женщин в правительстве*», – сказала Грибаускайте.

СЛЫШАЛИ?

## Сакура в Японии зацветет раньше обычного

*Ожидается, что в нынешнем году можно будет полюбоваться этим зрелищем уже в середине марта.*



Королевская сакура – один из главных символов Японии – цветет всего около недели. Но благодаря тому, что протяженность страны с юга на север составляет более 3000 километров, *ханами*, то есть любование цветами, можно растянуть до полутора месяцев.

На самом южном острове Японии – Окинава – первые бутоны сакуры распускаются уже в январе, в то время как на северном острове Хоккайдо сакура может зацвести только к лету.

Появление первых цветков вишни называется *кайка*. По нему строятся прогнозы дальнейшего цветения сакуры на территории всей страны. Пик цветения сакуры – *манкай* – это время, когда деревья японской вишни почти полностью покрыты бутонами и цветами.

Метеорологическое агентство Японии составило график цветения сакуры на 2019 год. Согласно прогнозу, первые цветы распустятся в префектуре Коти (примерно 18–19 марта), а затем в Кумамото, Фукуоке и Мацуяме (25–27 марта).

В Токио, Нагое и Хиросиме сакура достигнет полного расцвета 29 марта – 1 апреля. Это примерно на четыре дня раньше нормы. Метеорологи объясняют это повышением температуры, которое началось в октябре 2018 года.

В центральных префектурах Японии: Вакаяме, Осаке и Киото – цветение начнется в конце апреля. А на севере страны – во второй половине апреля – начале мая.

СЛЫШАЛИ?

## Лидер оппозиции Венесуэлы объявил себя временным президентом и принес присягу

*Его официально признали США.*

Хуан Гуайдо, председатель Национальной ассамблеи Венесуэлы и лидер оппозиции, объявил себя исполняющим обязанности президента на многотысячном митинге в столице страны Каракасе. Он призвал провести свободные выборы и покончить с узурпацией власти Мадуро.

После неудачной попытки госпереворота со стороны военных сразу в нескольких регионах страны начались беспорядки. По данным местных СМИ на вчерашний день, погибли 16 человек.

Еще три недели назад о Хуане Гуайдо было мало что известно: 35 лет, политик из небогатого штата Варгас. 5 января вследствие ротации он стал главой Национальной ассамблеи и вот уже, размахивая Конституцией, объявил себя президентом страны.

«Перед Господом Богом и Венесуэлой, опираясь на поддержку моих коллег из Национальной ассамблеи, я приношу присягу в качестве главы исполнительной власти, временного президента Венесуэлы», – заявил Хуан Гуайдо.

День был выбран неслучайно. 23 января в Венесуэле национальный праздник: в 1958 году в этот день свергли диктатора Переса Хименеса, ставленника США. С тех пор дату отмечают как День независимости.

Кстати, с Америкой у Хуана Гуайдо крепкие связи: он учился в престижном университете Джорджа Вашингтона, его семья, говорят, живет во Флориде.

В Вашингтоне самопровозглашения Гуайдо как будто ждали. Не успел он произнести последние слова, как Дональд Трамп, весьма занятый сейчас борьбой с оппозицией в условиях шатдауна, заявил, что всецело поддерживает его: «Сегодня я официально признаю главу Национальной ассамблеи Хуана Гуайдо исполняющим обязанности президента Венесуэлы».

Николас Мадуро назвал происходящее попыткой переворота и объявил, что Венесуэла разрывает дипломатические отношения с США: «В этот исторический день, когда был подтвержден наш суверенитет, я подписываю дипломатическую ноту, согласно которой весь дипломатический и консульский персонал Соединенных Штатов в Венесуэле должен покинуть страну в течение 72 часов».

Вице-президент США Майкл Пенс за сутки до этих событий напрямую обратился к венесуэльцам. Он назвал Мадуро диктатором и, чтобы быть понятым до конца,



даже заговорил по-испански: «Estamos con ustedes. Мы с вами. И мы будем с вами, пока демократия не будет восстановлена и вы не вернете себе свою свободу».

Госсекретарь США Майк Помпео заявил, что не признает разрыва дипотношений с Венесуэлой. Поддерживать связь Штаты намерены через правительство временного президента Хуана Гуайдо. Полномочия Гуайдо сразу же признали также Канада, Бразилия, Колумбия, Аргентина, Перу, Парагвай, Коста-Рика и Чили. Мексика и Эквадор воздержались. Руководство Евросоюза призвало венесуэльцев к новым выборам.

Вполне возможно, что за сутки ситуация в Венесуэле изменилась в ту или иную сторону.

ЭВРИКА!

## Сколько длятся сутки на Сатурне

Астрофизики NASA при помощи данных космического аппарата Cassini установили длину суток на этой планете.

Вопрос о точной продолжительности дня на Сатурне ставил ученых в тупик десятилетиями. Поскольку планета является газовым гигантом, у исследователей не было устойчивых ориентиров, как на скалистой планете.

Новые данные позволили подсчитать, что Сатурн делает оборот вокруг своей оси за 10 часов, 33 минуты и 38 секунд.

Примерная длительность суток на Сатурне была известна и ранее, но цифры немного отличались. По данным аппарата Voyager, день на Сатурне длился 10 часов 39 минут и 23 секунды. Исследование аппарата Cassini 2004 года указывали на то, что длительность суток на газовой планете составляет 10 часов 45 минут и 45 секунд.

Cassini детально исследовал ледяные кольца Сатурна, состоящие из миллиардов твердых частиц, а затем Кристофер Маньковиц, аспирант факультета астрономии и астрофизики в Калифорнийском университете, использовал эти данные для изучения волновых моделей в кольцах.

При помощи компьютерного моделирования ученый сопоставил внутренние колебания с продолжительностью светового дня планеты. Идея состоит в том, что, когда Сатурн вращается, его внутренности немного покачиваются, вызывая небольшие изменения в гравитационном поле планеты. Эти небольшие изменения распространяются на куски льда в кольцах, вызывая небольшие волны.

В своей статье, опубликованной в журнале Astrophysical Journal, Маньковиц описывает, как он разработал модели внутренней структуры Сатурна, которые соответствовали бы волнам колец. Это позволило ему отслеживать движения внутренней части планеты – и, следовательно, ее вращение.

ПАМЯТЬ

# ЗАВЕЩАНИЕ АЛЕСЯ АДАМОВИЧА

## К 25-летию со дня смерти писателя

На автобусной остановке у поселка Глуша, что в Бобруйском районе, на всех проезжающих глядит Алесь Адамович. Рисунок сделан с характерной фотографии писателя: высокий лоб, внимательный взгляд из-под очков. Будто спрашивает: ну как вы тут, сограждане, чем живете, какие проблемы? Вопросы Адамовича, человека энергичного, жадного к жизни, я как будто слышу. А вот ответы какие-то неясные. Вроде того: живем, в общем, Алесь Михайлович, не без проблем, жизнь трудная, но вот как-то выживаем…

Живем или выживаем? Кажется, вечный белорусский вопрос. А тут еще подвалило: сдадут суверенность-независимость или как-то обойдется? Решил я на этот и другие существенные вопросы поискать ответы в книге Адамовича «Vixi» и в его интервью, данных незадолго до смерти. Все это я нередко перечитываю. Сразу предвижу если не возражение, то замечания: ну как можно советоваться с Адамовичем по сегодняшней ситуации, если четверть века минула с его смерти? Времена-то вон как изменились!

Времена, конечно, изменились. И все-таки есть настоятельный смысл перечитывать Адамовича. Дело не в статусе классика нашего, а это значит непременно всезнающего мудреца. Кстати, Адамович на такой статус не претендовал, и вопросов у него к себе и миру хватало. Просто время само высветило значительность его фигуры. У времени есть удивительное и справедливое свойство. Оно само элиминирует, исключает из культуры, из нашей памяти одни имена и, напротив, укрупняет, делает более злободневными, нужными и важными другие. Что касается личности Адамовича, то она сама по себе приобретает мифические очертания.

В этой ситуации, пожалуй, лучше всего обратиться к книгам писателя, в том числе к выпущенной в 2002 году «Vixi», что означает с латинского «Прожито». Книга эта непривычный жанр в белорусской литературе. В нашей литературе вообще мало воспоминаний, мемуарных материалов. Писатели наши не доживали до мемуарного возраста, многим просто не давали дожить. А те, что доживали, выученные советским временем, предпочитали молчать. Тем более бедна белорусская литература на произведения исповедального жанра, которыми представлены западноевропейская литература (Руссо) и русская, где исповедуются и сами авторы и их герои (Фонвизин, Гоголь, Толстой, Достоевский, Горький, Андреев). Впрочем, не забудем и о сегодня пронзающих душу страницах из предсмертных записей Казимира Сваяка и Владимира Жилки.

Книга Алеся Адамовича «Прожито» – это итог жизни человека и писателя, знающего о своей обреченности (тяжелейший инфаркт), о том, что времени отпущено мало. В «Записках из-под капельницы» он рассуждает: *«Всё, что я смог сделать, уже сделал, что взять от жизни смог (я!) – взял, какой же смысл держаться за нее, если сердце у тебя располовинено, как сабельным ударом?..»* И все-таки стремится высказаться о самом главном – о том, что сделано и как сделано в жизни, о тех больших общественных процессах, в которых довелось активно участвовать, об отношениях с родными и друзьями. Наконец, просто о долге человека перед самим собой, т.е. о выполнении им той миссии, ради которой он, возможно, и явился на свет. *«На днях хирургу, покушающемуся на мое бренное тело во имя того, чтобы продлить его существование еще лет на 5—10,* – записывает он в главах незавершенной книги, – *я ответил: 5 или 10 под вопросом для меня куда менее важны (нужны), чем один год, но без такого риска: еще несколько законченных глав незавершенной книги все ж сработаю».* Он был потрясающе упорный работник и к смерти относился с философским спокойствием, унаследованным от дедов-мужиков: Бог дал, Бог взял. Благодарил судьбу за прожитые 64 года, а она дала ему еще три с половиной.

Не буду здесь обсуждать, насколько, согласно сделанной еще ранее, в 1990 году, «итоговой» записи, ему удалось *«подтолкнуть процесс дискредитации «своего» ядерного оружия»* и *«блокировать атомную энергетику»*. Увы, ядерное оружие все более модернизируется и расползается по планете. В Беларуси строится Островецкая АЭС. Адамович действительно был одним из тех, что вывел «из зоны секретности чернобыльское преступление». И еще он помогал «генералиссимусу рухнуть». Но окончательного падения не произошло. Более того, сегодня в России почти культ Сталина. В Беларуси его зримый след – «линия Сталина». Еще он




хотел вернуть селянину землю. Но, похоже, селянин сам отказался от земли – такие ему создали условия. Зато содействие Адамовича «рождению жанра таких книг, как «Блокадная» и «Огненная», несомненно. Нобелевская премия Светланы Алексиевич – это, безусловно, и его заслуга.

Вернемся, однако, к главнейшим сегодняшним проблемам. Истерика, устроенная недавно в белорусских верхах по поводу того, что нас хотят «наклонить», включить в состав другого государства» и вообще заставить ходить «под бизуном», совместно с заявлением, что в случае чего в Беларуси будут вооружены стрелковым оружием семь миллионов человек, готовых отстаивать суверенитет, продемонстрировала прежде всего страх этих самых верхов потерять власть.

Власть, действительно отстаивающая суверенитет, должна прежде всего не кричать о том, что нас хотят «наклонить», а строить независимую экономику. Потому что в ней, в экономике, суть реального суверенитета. Естественно, в глобальном мире все сегодня взаимосвязано, и экономические реалии здесь на первом месте. Отстаивать суверенитет в этих условиях оказалось непросто. И Алесь Адамович как будто предупреждал об этом. В сентябре 1991 года в беседе с журналистом Леонидом Свиридовым, откликаясь на придание статуса конституционного закона Декларации о государственном суверенитете Беларуси, он сказал: *«…формулировка, что мы стали независимым государством, – это мечта, та мысль, до которой еще далеко».* Потому что *«независимое государство – это независимая самостоятельная экономика, это свои формы жизни, демократии. А иначе я не мыслю независимости».*

Как важно понять эту подчеркнутую писателем увязанность самостоятельной экономики со своими формами жизни, то есть жизни национальной, белорусской, и, натурально, вполне демократической. А что у нас выстроено? Как представляется, автократическое и безнациональное государство (национальный элемент используется только как фасад, декорация), лишившее перспектив наиболее мобильную и креативную молодую часть общества и обрекшее на жалкое существование многих рабочих, крестьян, учителей, врачей, инженеров, ученых, писателей, артистов, не говоря о полной нищете части пенсионеров. Что уж тут поминать об отсутствии по-настоящему независимых судов, независимой прессы, о жестком социальном расслоении, при котором жирует бюрократическая верхушка, чувствующая себя в нашей стране как своего рода оккупационная армия. И как не понять знакомого инженера, сказавшего в ответ на мою сентенцию о шумихе вокруг независимости, что он уже давно чувствует себя независимым от нормальной пенсии и нормальной медицины.

Вот и выходит, что пророческими оказались слова Адамовича о том, что до настоящей независимости нам еще далеко.

Прозорлив оказался писатель и в «президентском вопросе». Он считал, что общество не всегда готово к тому, чтобы *«передавать одному человеку такую мощную власть». «Тем более, что человек этот может оказаться маленьким Сталиным, великим параноиком… Мы такого уже видели немало. Так вот в Беларуси вновь встает вопрос, кто дорвется до этого поста».* Потому и считал, что *«нам нужен сильный Верховный Совет, который бы отражал социально-политическую ситуацию в Беларуси».* А когда зашла речь о том, что он, Адамович, мог бы баллотироваться в президенты, буквально замахал руками – *«это несерьезно».* И сказал о том, что *«предложил бы Василю Быкову стать нашим Вацлавом Гавелом».* Хотя и был уверен, что Быков *«на это не согласится».*

Теперь можно только помечтать, какой была бы наша страна, если бы ее возглавили, может быть, в самый важный период Быков или Адамович. При всех проблемах несомненно одно: они сделали бы все, чтобы придать ей тот национально-демократический импульс, который помог Чехии во времена президентства Вацлава Гавела обрести облик европейского государства.

И еще одну важную заповедь оставил нам Алесь Адамович: бороться с душащей, порой захлестывающей нас ненавистью. В беседе с журналистом Александром Лукашуком, состоявшейся за год до смерти, он признался, что не мог преодолеть этого чувства по отношению к полицаям, немцам, бургомистрам, власовцам, когда писал свои первые книги. Потому что не видел в них тех человеческих качеств, которые признавал в себе. Но его мать, Анна Митрофановна, участница партизанского Сопротивления, каким-то народным чутьем в те страшные военные годы понимала, что и этим людям нельзя отказывать в чем-то человеческом. Во всем, что она делала как подпольщица, партизанка, не было ни грана ненависти к чужим людям, врагам. И каким же драматическим путем шел к этой гуманистической правде Алесь Адамович, если спустя много лет после войны он написал сценарий фильма «Иди и смотри»?

Сегодня нетерпимость, переходящая в ненависть, буквально разлита по миру. Ее источают телевидение, газеты, политики. С разных сторон нас учат ненавидеть Украину и украинцев, Россию и русских, Америку и американцев… И мы оказываемся в дьявольском котле взаимной ненависти, из которого как будто нет спасения. Но путь ненависти – это путь предательства человеческого в человеке, путь предательства самого себя. Высшая правда супержестокого кино «Иди и смотри» в призыве не убивать в себе человека. Постаревший от нечеловеческих страданий подросток Флёра в конце фильма не находит в себе сил выстрелить в младенческий портрет Гитлера, по сути выстрелить в ребенка.

Адамович считал себя «русским и белорусским писателем», человеком, который, словно за перила, держится двумя руками «за русский язык и за белорусский» (об этом прямо сказал в той же беседе с А.Лукашуком). Так сложилась его жизнь. А в «Записках из-под капельницы» сказано, что у него «для Вечности» есть Беларусь. Беларусь, для которой он на самом деле сделал очень много. Страна совершила прорыв на европейские просторы благодаря Быкову, Короткевичу, Рязанову, Алексиевич… Предоставляю читателям возможность самим дополнить этот список. Но для меня в нем на первом месте Алесь Адамович, подлинный белорусский европеец.

**Семён БУКЧИН**

